# НАВІНКІ

23 - 30 студзеня 2003 №3(82) Кошт свабодны





# ВЯЛІКІ БОКС



### Зоркі інтэлігенцыі

## Ліга прафэсіяналаў:

## Шушкевіч – Белы

# МАТЧ-РЭВАНШ

**Сачыце за рэклямай!**



## Анталёгія руху «Зубр»

Спэцыяльнае дасьледаваньне на стар.4

## Сьціплая прывабнасьць Чучхе

на стар.5

## *Orwell not dead?*

*Славуты твор займеў працяг.* *Стар.12*

## SEX

### ~~у вялікім саюзе~~

Відаць, чыста выпадкова візыт прэзыдэнта Расеі ў Менск супаў з пачаткам трансляцыі па НТВ навамоднага амэрыканскага тэлесэрыялу «Сэкс у вялікім горадзе», дзе сэксуальна заклапочаныя бабішчы вырашаюць свае інтымныя праблемы ў цяжкіх сьветапоглядных муках. Здавалася б, што агульнага яны могуць мець да беларускай палітыкі й міжнароднай геапалітычнай сытуацыі ўвогуле? І тым ня менш паралелі на наш погляд напрошваюцца самі сабой...

**Комікс на стар.16**


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 23.01.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 37

# SEX — у вялікім саюзе

























































